# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

## ПАНУЕ ПОПЫТ

**Бела-чырвона-белыя сцягі будуць вырабляцца на Мінскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Праўда, як растлумачыў галоўны інжынер прадпрыемства Валянцін Старухін, размова пакуль ідзе не аб масавай вытворчасці, а аб выкананні разавых заявак гарвыканкома беларускай сталіцы і Гаспадарчага ўпраўлення Саўміна.**

Заказ Савета Міністраў афармляў (пасля кансультацый з народным дэпутатам рэспублікі Зянонам Пазьняком і мастакамі) галоўны спецыяліст Гаспадарчага ўпраўлення Мікалай Клімовіч. Па атрыманай у яго інфармацыі, заказаны сцягі трох відаў (суадносіны шырыні да даўжыні — 1:2): для рэзідэнцый — 90×180 см, для ўстаноўкі на ўрадавых аўтамабілях — 20×40 і на сталах перагавораў — 12×24 см.

Дзяржаўныя сцягі БССР фабрыка мастацкіх вырабаў перастала выпускаць задоўга да прызнання Вярхоўным Саветам бела-чырвона-белага— у сувязі з тым, што на працягу апошняга года не паступіла ніводнай заяўкі ад прадпрыемстваў, ды і гандаль паўгода ўжо адмаўляецца браць чырвона-зялёныя палотнішчы.

Так што Вярхоўны Савет Беларусі, надаўшы статус дзяржаўным нацыянальным сімвалам, можна сказаць, толькі канстатаваў факт. На рынку, да якога мы так нясмела рухаемся, пануе попыт.

## ЗАТОЕ ЁСЦЬ ЛАТАРЭЙНЫ БІЛЕТ

**Ахвярай прымітыўнага махлярства стаў студэнт Вільнюскага тэхналагічнага інстытута 22-гадовы І., які знаходзіўся ў Мінску праездам. Выпадкова пазнаёміўшыся з двума туркменамі, ён паведаміў ім аб вялікім жаданні мець аўтамабіль.**

**Новыя таварышы тут жа прапанавалі яму набыць латарэйны білет Туркменістана, на які выпаў іменна той самы шчаслівы выйгрыш — «Жыгулі». Пераканаўшыся ў ашчадкасе ў сапраўднасці білета, І. зараз жа адлічыў і ўручыў «прадаўцам» 61 тысячу рублёў, а ўзамен атрымаў запаветны білет, але... з іншымі нумарамі. Цяпер у «беднага» студэнта няма ні машыны, ні грошай. Затое ёсць латарэйны білет, на жаль, без выйгрышу!**

## БРЭСТ АДМАЎЛЯЕЦЦА АД ВЫЦВЯРЭЗНІКА?

**Ідэя ліквідацыі медвыцвярэзніка ў Брэсце належыць урачу-наркалагу У. Кіскевічу. Ён праяўляе да пацыентаў міласэрнасць і гуманнасць. Патрабуе, дабівацца чалавечых да іх адносін. Ці не праўда, нязвыклы для большасці з нас падыход?**

— Зняважай чалавека не вылечыш,—гаворыць Уладзімір Георгіевіч. —Тым больш, што зневажаем яго самога словамі, а сям'ю, блізкіх б'ём матэрыяльна: прэміі — далоў, чарга на жыллё — у хвост і г. д. А калі ў выцвярэзнік трапіў выпадковы пацыент, які проста не разлічыў сілы, перабраў? Такому наогул не пазайздросціш. Яму трэба дапамагчы хутчэй працверазіцца. Каб заўтра, магчыма, быць здольным нармальна працаваць.

**— Дык менавіта гэтым і займаецца медвыцвярэзнік.**

— Цяперашні? Не, ён больш працуе на страх, зняважу чалавека. Таму мы адмаўляемся ад яго.

**— А што ўзамен?**

— Чыстую медыцыну. І ніякіх вынікаў. Не паведамляць на работу, у міліцыю і г. д. Але за абслугоўванне трэба плаціць. Разы ў два больш, чым цяпер, рублёў шэсцьдзесят-семдзесят.

**— Дык што, толькі шыльду змяніць над медвыцвярэзнікам?**

— Не, мяняецца сутнасць. Дарэчы, вызваляецца будынак, усё будзе канцэнтравацца ў нас у наркадыспансеры. Ці, калі быць дакладным, не ў наркадыспансеры, а ва «ўстанове па аказанню меддапамогі насельніцтву». Тут мы ад шыльды, ганебнай, трэба сказаць, адмаўляемся. Лячэнне, медпаслугі — толькі ананімныя. Ужо ёсць добраахвотнікі.

**— Але нас хвалююць перш за ўсё тыя, хто, напіўшыся, ляжыць пад плотам. Яны што, будуць прадастаўлены самі сабе?**

— Чаму ж? Экіпажы медслужбы не расфарміроўваюцца. І міліцыі работы хопіць. Гэта ж наіўна меркаваць, што калі ліквідаваць медвыцвярэзнік, дык п'яніцы пяройдуць туды, дзе яны ёсць.

## ЕДЗЬЦЕ Ў ВЁСКУ— ЗАХАВАЕЦЕ ЗДАРОЎЕ!

Хочаш больш пражыць — едзь у вёску. Менавіта да такога вываду прыйшла група вучоных, якая толькі што завяршыла пяцігадовыя медыцынскія даследаванні людзей розных прафесій.

Высветлілася, што сяльчане ў значна меншай ступені падвергнуты «хваробам стагоддзя», чым гараджане: на 40 працэнтаў у іх менш захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы, значна здаравейшыя ў іх ныркі. Не так часта, як у прадстаўнікоў «гарадскіх» прафесій, сустракаюцца парушэнні псіхікі. У цэлым жа схільнасць да хвароб у сялян на 15 працэнтаў ніжэйшая, чым у гараджан. Так што рабіце вывад.

## ПА ХВАРОБЕ—ЭРОТЫКАЙ

**Дэфіцыт лекаў не толькі ў аптэках, але і ў стацыянарных лячэбных установах дае шырокі прастор фантазіі ўрачоў. Хворых жа неяк трэба ставіць на ногі.**

У гарадской бальніцы № 1 Калінінграда, паведамляе «Мегаполіс-экспрэс», адкрыўся відэасалон. І справы, мяркуючы па ўсім, ідуць няблага. У праграме —«крутыя» дэтэктывы, баевікі, а на сон — эротыка. Усяго за рубель, кажуць, хваробу як рукой знімае.

Пачакаем, як хутка «рацыяналізатарства» калінінградцаў дасягне межаў нашай рэспублікі.

## МЯНЯЮЦЬ «ДРАЎЛЯНЫЯ» НА АКЦЫІ

1 верасня гэтага года ў Мінскім навукова-даследчым аб'яднанні «Інтэграл» куплена акцый на 1,6 мільёна рублёў. Думаецца, гэта не так ужо і шмат, улічваючы, што заробкі інтэгралаўцаў шмат гадоў прыкметна вышэйшыя, чым на іншых прадпрыемствах.

Тыя, хто не захоўвалі грошы ў панчохах і купілі два выпускі акцый па 500 і 1000 рублёў, ужо атрымалі выйгрыш у 650 рублёў. Гэта 600 рублёў кампенсацыі і 50 рублёў дывідэндаў за 1990 год. На гэтыя грошы жадаючыя могуць набыць дадатковыя акцыі, а значыць, размер дывідэндаў за 1991 год будзе даволі ўнушальным. Так што ёсць рацыя мяняць «драўляныя» рублі на акцыі.

## ПА СЛЯДАХ 500-ГАДОВАГА ГВАЛТАЎНІКА

Неадназначную рэакцыю выклікала інфармацыя «Гвалтаўніку — 500 гадоў», надрукаваная ў нашай газеце 3 верасня гэтага года. Адны чытачы абурыліся тым, што былая партыйная і досыць афіцыяльная газета раптам пачала друкаваць матэрыялы аб гвалтаўніках, ды яшчэ памёршых 500 гадоў назад. Другія, наадварот, цікавіліся далейшым лёсам правадыра інкаў. Нехта нават выказаў цікавую версію аб тым, што мумія пайшла з жанчынай-прафесарам у рэстаран, бо дагэтуль галадала паўтысячагоддзя. А адна жанчына засумнявалася ў патэнцыі такога гвалтаўніка, аб чым таксама можна паспрачацца. Далейшы лёс муміі, а таксама швейцарскага вучонага Рэнаты Цапаўль нам пакуль што невядомы, але пры першай магчымасці мы раскажам аб ім чытачам.

Выпуск падрыхтавалі: А. КОКТЫШ, І. КАРНЕЙ, А. СЛАНЕЎСКІ, С. СУЛКОЎСКІ, І. ШЧУЧЭНКА.
Нашы тэлефоны: 32-44-02, 32-60-13, 32-31-98.

# ВЫСТУПЛЕННЕ

## МІНІСТРА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 46-Й СЕСІІ ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕІ ААН

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Нашы сур'ёзныя, фундаментальныя адносіны да рынку звязаны з тым, што мы разглядаем яго як сродак акумулявання матэрыяльных рэсурсаў для вырашэння многіх праблем, выкліканых Чарнобылем. Разам з тым, неабходнасць сканцэнтравання ўжо цяпер велізарных рэсурсаў на гэтым напрамку аб'ектыўна ўскладняе ажыццяўляемы пераход да іншага тыпу эканамічных адносін.

Сёмае. **Забеспячэнне экалагічнай бяспекі.**

Без яе немагчымы далейшы прагрэс і выжыванне чалавецтва ў пачатку трэцяга тысячагоддзя.

У гэтым кантэксце прынцыповае значэнне мае падрыхтоўка Канферэнцыі па навакольнаму асяроддзю і развіццю 1992 г., якая склікаецца ў Бразіліі на вышэйшым узроўні. Важна дабіцца, каб гэта канферэнцыя стала рубежным этапам ва ўсведамленні чалавецтвам усёй глыбіні экалагічнай небяспекі і ва ўзгадненні агульных падыходаў да стратэгіі прыродаахоўнага супрацоўніцтва дзяржаў на бліжэйшае дзесяцігоддзе.

Мы перакананы, што настаў час — асабліва з улікам горкіх урокаў Чарнобыля — падумаць над стварэннем у сістэме ААН аўтаматычна запускаемага механізма буйнамаштабнай гуманітарнай дапамогі ў выпадку бедстваў надзвычай маштабнага характару.

Восьмае. **Забеспячэнне свабоднага ўзаемадзеяння культур.**

Тут мы зыходзім з універсальнай каштоўнасці культуры, яе вялікай гуманістычнай функцыі. Паводле нашага перакanання, культура заклікана адыгрываць найвялікшую ролю ў збліжэнні, інтэграцыі, росце ўзаемаразумення паміж дзяржавамі і людзьмі.

Зыходзячы з гэтага, мы будзем прымаць больш актыўны ўдзел у фарміраванні культурнага базісу і спадчыны Еўропы і свету, перабудоўваць нашы ўзаемаадносіны з суседзямі на аснове непераходзячых культурных каштоўнасцей і ідэалаў, агульных традыцый духоўнага жыцця. Культура па сваёй сітуацыі нацыянальная, але ў той жа час яна не ведае межаў.

Беларуская культура заўсёды развівалася ў лоне лепшых гуманітарных традыцый Еўропы, ствараючы спрыяльную глебу для праяўлення розных форм чалавечага генія. Мы з задавальненнем адзначаем, што звязаныя з Беларуссю сваімі родавымі каранямі пісьменнік Ф. Дастаеўскі, кампазітары І. Стравінскі і Д. Шастаковіч, мастак М. Шагал, паэт Г. Апалінэр унеслі прыкметны ўклад у духоўную скарбніцу іншых народаў і агульную сусветную культуру сваёй філасофскай глыбінёй, наватарствам, самабытнасцю і непаўторнасцю, рафінаванасцю эстэтычных прынцыпаў. Захоўваючы і прымнажаючы нашы спрадвечныя традыцыі талерантнасці, мы маем намер і ў далейшым ствараць умовы для свабоднага перамяшчэння людзей, абмену ідэямі і культурнымі каштоўнасцямі.

П. Краўчанка нямала ўвагі ўдзяліў ролі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у новых умовах шляхам умацавання аўтарытэту сусветнага супольніцтва, яго мадэрнізацыі на базе новага, адпаведнага сённяшнім рэаліям, прачытання Статуса Арганізацыі.

У старажытнасці Беларусь знаходзілася на шляху «з варяг у грэкі», сказаў у заключэнне міністр. А сёння мы адчуваем сябе часткай сусветнага супольніцтва нацый. І адраджэнне Беларусі — гэта наш своеасаблівы ўклад у адраджэнне сусветнай сям'і народаў. Сям'я па-сапраўднаму моцная і працвітае тады, калі надыходзіць час росквіту для ўсіх яе членаў.

## РАПСОДЫЯ ЗА ВАЛЮТУ

ПІНСК. **(С. Шапіра).** Амаль 100 юнакоў і дзяўчат прыняты на першы курс зноў створаных навучальных музычных устаноў горада. І калі навучэнцы гарадской школы духоўнай музыкі пакуль не адчуваюць асаблівых цяжкасцей з інструментамі, то навічкі музычнага аддзялення вучылішча мастацтваў літаральна ў адчаі. Усе спробы дырэкцыі навучальных устаноў заказаць на фабрыках рэспублікі і краіны дабротныя баяны закончыліся няўдачай. Адказ адзін: зрабіць можам, але за валюту.

Вось і прыходзіцца кіраўнікам вучылішча ісці з працягнутай рукой да тых калектываў, якія самі з цяжкасцю здабываюць скупыя валютныя паступленні для сваіх патрэб. Таму праблема застаецца пакуль не вырашанай. Як бачым, рынычная эканоміка рыкашэтам ударыла і па музыцы.

# Мафія ў генеральскіх пагонах

**Гэта інтэрв'ю народны дэпутат РСФСР, старшыня Расійскага саюза абароны ваеннаслужачых і членаў іх сем'яў «Шчыт» Віталь Уражцаў даў карэспандэнту часопіса «Столица» Кірылу Рыбаку незадоўга да вядомых жнівеньскіх падзей.**

**Сёння некаторыя героі гэтага матэрыялу перасяліліся з шыкоўных дач у камеры «Матроскай цішыні», у адносінах да іх вядзецца следства, некаторыя датэрмінова адпраўлены на пенсію.**

**Але гэта не робіць даволі неадназначнае інтэрв'ю менш цікавым, наадварот: калі так неабвержна пацвердзіліся многія ацэнкі, дадзеныя В. УРАЖЦАВЫМ армейскай «вярхушцы», тым большай увагі заслугоўваюць астатнія прыведзеныя ім факты.**

**— Віталь Георгіевіч, колькі маршалаў і генералаў мае наша краіна сёння?**

— Міністэрства абароны нядаўна паведаміла: 1991. Напэўна, той, хто вынаходзіў гэту лічбу, не стаў чухаць патыліцу, а проста ўзяў лічбу бягучага года. На самай справе генералаў намнога больш. Калі я служыў у Галоўным палітычным упраўленні Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, вырашылі разаслаць віншаванні з чарговым камсамольскім юбілеем усім тым высокапастаўленым чынам, хто калісьці выхоўваўся ў камсамоле. Каб не памыліцца, віншавалі наогул усіх генералаў. Такіх «генеральскіх» віншаванняў мы разаслалі каля дзесяці тысяч. Больш пяці тысяч — ветэранам, пенсіянерам, чатыры тысячы — тым, хто яшчэ служыў. Не думаю, каб наш генералітэт удвая «схуднеў» з 1974 года. Наадварот, былі ўведзены дзесяткі, калі не сотні, новых пасад. У нашай арміі адзін генерал прыпадае на 350 салдат, у арміі ЗША — на 1.750. У заходніх краінах тры віды ўзброеных сіл: сухапутныя войскі, флот, авіяцыя, а ў нас пяць — усё для таго, каб штучна захаваць вялікі апарат вышэйшага каманднага саставу.

**— Калі генеральскіх пасад так многа, як вы гаворыце, то, выходзіць, атрымаць званне генерал-маёра не больш складана, чым стаць дырэктарам прадпрыемства сярэдняй рукі?**

— Тут усё не так проста. Каб трапіць у гэту абойму, трэба, як правіла, мець магутнага «спонсара». Стары анекдот памятаеце: «Ці можа сын генерал-палкоўніка стаць маршалам? — Не, таму што ў маршалаў таксама ёсць дзеці...» Нашчадкам вялікіх военачальнікаў у войсках ствараецца рэжым найбольшага спрыяння. Ніводзін камандзір палка не будзе звязвацца з маладзенькім лейтэнантам, калі ў лейтэнанта тата — у Генеральным штабе. Іншы раз дастаткова быць проста аднаго прозвішча з «вялікім», каб табе любыя «свавольствы» сыходзілі з рук. Ёсць цэлыя дынастыі: пляменнік маршала Нядзеліна — генерал-палкоўнік, у былога міністра абароны маршала Сакалова два сыны даслужыліся да генерал-лейтэнанцкіх пагонаў. І такіх прыкладаў мноства.

**— Але ж дынастыі — гэта адна з даўніх традыцый рускага афіцэрскага корпуса.**

— Ва ўсякім разе, ніколі не было традыцыяй дзяленне афіцэраў на «белую косць» і быдла. А ў нас гэта адбывалася нават на вайне, у Афганістане. Генерал арміі Варэннікаў асабіста кіраваў будаўніцтвам бетанаванага бліндажа для невядомага старшага лейтэнанта, чыя маці працавала ва ўпраўленні гандлю Маскоўскай ваеннай акругі.

Можна і не быць чыімсьці сынам, а выбіцца «ў людзі», парадніўшыся з вядомай сям'ёй. Цяперашні намеснік міністра абароны Ачалаў ажаніўся на дачцэ намесніка начальніка Акадэміі бранятанкавых войск і прасоўваўся па службе кожныя паўтара года. У сорак пяць быў ужо генерал-палкоўнікам. Ён нават вучыў сваіх таварышаў: не жаніцеся, маўляў, на «кухарках», выбірайце нявесту, як я.

**— Няўжо не адбываецца ніводнага назначэння «збоку»?**

— Званне можна атрымаць і «выпадкова»: спадабацца вялікаму начальству, добра прыняць яго, накрыць стол, дарагі падарунак зрабіць, «прагнуцца»: «Таварыш маршал, няхай ваш сабачка адпачне, я сам пабегаю за зайцамі». І потым, павінен жа хтосьці працаваць! Апарат Міністэрства абароны шукае ініцыятыўных, талковых афіцэраў «на вуліцы», прасоўвае іх па службе, ставіць на адну дошку з «наследнікамі». Але за такое далучэнне, за кватэру, за персанальную «Волгу», за магчымасць уладкаваць дзяцей у прэстыжнае ВНУ прыходзіцца дорага расплачвацца. Стаўшы генералам, ты поўнасцю страчваеш права на ўласную думку, абавязаны глядзець у рот начальніку і быць гатовым зрабіць любую гнюснасць, якую ад цябе запатрабуюць. Цябе поўнасцю адаптуюць да сістэмы. Таму сярэднестатыстычны савецкі генерал — гэта хітры, злавесны, баязлівы апаратны стратэг, беззапаветна адданы ідэалам марксізму-ленінізму — ужо хоць бы таму, што гэтыя ідэалы забяспечваюць бязбеднае існаванне і яму, і яго сям'і.

**— Дарэчы, аб бязбедным жыцці. Камісія па пытаннях прывілей і льгот Вярхоўнага Савета СССР нядаўна расследавала факты выкарыстання вышэйшым генералітэтам ваенна-транспартнай авіяцыі ў асабістых мэтах. Мяркуюць, штогадовыя страты толькі ад «персанальных» самалётаў складаюць амаль мільярд рублёў. Але гэта недзе адна сотая нашага афіцыяльнага ваеннага бюджэту, па траяку з кожнага жыхара краіны! У колькі ж абыходзяцца ў такім разе ўсе іншыя артыкулы ўтрымання армейскага камандавання?**

— «Персанальныя» самалёты — гэта толькі верхняя частка айсберга. Наўрад ці хто зможа падлічыць усе расходы на генералаў у цэлым. Сумы вялікія. Хоць наш міністр абароны, напрыклад, атрымлівае менш, чым амерыканскі лейтэнант. Затое амерыканскі лейтэнант не можа за казённы кошт утрымаць палюбоўніцу, як гэта рабіў маршал Грэчка. Наш міністр мае «чыстымі» 2,5—3 тысячы рублёў штомесяц — не вельмі вялікія грошы, — і гэтыя грошы ён лічыць... Затое ўсё астатняе — па патрэбах: транспарт, кватэра, дача, абмундзіраванне. Гэтых сродкаў ён ужо, натуральна, не шкадуе. Тое самае — узроўнем ніжэй: усё, чым камандуеш, — тваё.

У ваенным шпіталі імя Мандрыка да кожнага генерала арміі прыстаўлена па пяць-шэсць урачоў — бясплатна. На адным з падмаскоўных аэрадромаў (ён абслугоўвае, у прыватнасці, штаб Ваенна-Марскога Флоту) камандуючаму пабудавалі спецыяльны дамок «для чакання самалёта»: тэлевізар, бар, душ, невялікі басейн, кадушка з пальмай.

Генерал можа без усялякіх абмежаванняў карыстацца рабочым часам падначаленых або прымушаць падначаленых працаваць на сваю сям'ю. У Акадэміі імя Жукоўскага, напрыклад, на сына памёршага маршала Кутахава працавала цэлая лабараторыя. На працягу трох гадоў кафедра «аблічвала» дысертацыю сына маршала Яфімава. Неяк аднаго разу сустрэў на вакзале ў Брэсце старога таварыша. «Добры дзень, Сцёпа, што ты тут робіш?» Аказалася — Сцёпа павінен сустрэць і праводзіць дачку генерала арміі Сухарукава, каб нічога непрадбачанага не здарылася. І начальнік штаба дэсантна-штурмавой брыгады падпалкоўнік Сцяпан Чарняк вымушаны быў прыслужваць гэтай даме як целаахоўнік.

**— Вас паслухаеш — сумна становіцца. Дзе ж легендарны генерал Вялікай Айчыннай, які «слуга цару, бацька салдатам»?**

— Той генералітэт, што сфарміраваўся пры Сталіне, быў, безумоўна, іншым. Тыя генералы навучыліся ваяваць, іх узняла на грэбень сама логіка вайны. Але пры гэтым «сталінскі сокал» усюды — гэта салдафон, грубіян, які ў кожным сваім палку меў ППЖ — паходна-палявую жонку, які вагонамі вывозіў з пераможанай Германіі нарабаванае дабро... Потым з'явіўся Хрушчоў і гэту кагорту разагнаў. На месца вайсковых камандзіраў у вышэйшым генералітэце прыйшлі больш мяккацелыя палітработнікі...

Хрушчоў, расказваюць, неадназначна намякаў: маўляў, як жа так, у нас да гэтага часу няма ніводнага маршала-палітрука. Марыў стаць першым. А яго «не зразумелі»: так і пайшоў на пенсію генерал-лейтэнантам.

Пры Брэжневе вышэйшае армейскае камандаванне наогул стала люстэркавым адлюстраваннем генсека: расслабленасць, барства, карупцыя, раскоша. Пры гэтым — поўная дэвальвацыя генеральскага звання: сакратарам ЦК партыі і нават ВЛКСМ да трыццацігоддзя перамогі далі генерал-маёраў, каб хоць неяк апраўдаць маршальскія зоркі Леаніда Ільіча.

**— Пры абмеркаванні кандыдатуры Дзмітрыя Цімафеевіча Язава на пасаду міністра абароны СССР Гарбачоў ставіў яму ў заслугу якраз тое, што ён вельмі скараціў генеральскія пасады, расфарміраваў дзесяткі дывізій...**

— Усе чуткі аб грандыёзнай кадравай рэвалюцыі, якую нібыта зрабіў Язаў, мякка кажучы, не адпавядаюць сапраўднасці. Рэальнае дасягненне Дзмітрыя Цімафеевіча ў тым, што ён здолеў перацягнуць у Маскву ўсіх тых славутых людзей, з якімі служыў на Далёкім Усходзе. А даведкі аб тым, што Язаў — кадравы геній, рыхтуюцца ўсё тым жа Галоўным палітычным упраўленнем (цяпер яно называецца «Галоўнае ваенна-палітычнае»). Няўжо могуць яны напісаць што-небудзь, апрача дыфірамбаў, свайму міністру? А Міхаіл Сяргеевіч толькі агучвае гэтыя паперкі.

На пасаду міністра абароны прэтэндавала нямала моцных кандыдатаў, але выбар выпаў менавіта на Язава. І не таму, што ён быў больш таленавіты і рашучы, а таму, што «цару прыемны». Дзмітрый Цімафеевіч звязаны з Гарбачовым яшчэ работай у Стаўрапалі. Язаў, як мне расказваў адзін буйны чын ГалоўПУРа, быў тады камандзірам мотастралковага корпуса, уваходзіў у састаў бюро крайкома КПСС, ніколі «не высоўваўся», галасаваў так, як было трэба Міхаілу Сяргеевічу. Сябравалі сем'ямі.

Любы кіраўнік, каб моцна стаяць на нагах, павінен апірацца на армію — усе ж перавароты ў свеце рабіліся рукамі ваенных. Трэба быць упэўненым, што ніхто не ўваткне табе нож у спіну. Міхаіл Сяргеевіч адчуваў, што Сакалоў — «не той» чалавек. Сакалова вылучаў ранейшы партапарат, з якім Гарбачоў уступіў у сутычку. І прызямленне Маціяса Руста на Краснай плошчы дало магчымасць імгненна змяніць Сакалова на свайго добрага сябра.

Усе размовы аб «генеральскім путчы», аб «армейскім лобі» — глупства. Гарбачоў пры жаданні можа змясціць любога военачальніка — адным рухам мезенца...

**— І ўсё-такі генералітэт прыкметна актывізаваўся ў палітыцы: заўсёды праяўляе «ініцыятыву» на ўскраінах краіны, выступае ў парламентах з зубаздрабняльнымі прамовамі, Альберт Макашоў паспрабаваў нават стаць прэзідэнтам Расіі...**

— Якая ініцыятыва, Божа літасцівы! Любы крок узгадняецца і пераўзгадняецца «наверсе» — няхай гэта кадравая расстаноўка, штурм тэлевежы або вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты. Партыя сказала «трэба» — генерал адказаў «ёсць». Савецкая ваенная дактрына да гэтага часу сцвярджае, што асновай асноў савецкага ваеннага будаўніцтва з'яўляецца кіраўніцтва КПСС Савецкімі Узброенымі Сіламі. Са Старой плошчай у іх поўны сімбіёз.

І што страшна: палітычныя памылкі разглядаюцца як злачынствы, а злачынствы сапраўднае — у парадку рэчаў, на яго заплюшчваюць вочы. Сярод вышэйшага камандавання вельмі многа патэнцыяльных крымінальнікаў, хабарнікаў.

**— Гэта вельмі сур'ёзнае сцвярджэнне. Тут патрэбны доказы.**

— Доказаў колькі хочаш. Я асабіста быў сведкам таго, як у Дамадзедаўскі аэрапорт прыбылі вялікія караблі з Сярэдняй Азіі — з арэхамі, урукам, інжырам. На кожнай каробцы друкарскім спосабам было памечана: «Генерал-палкоўніку Собалеву». Міхаіл Георгіевіч у сямідзесятыя — васьмідзесятыя гады быў намеснікам начальніка Галоўнага палітупраўлення. Калі ў 1968 годзе нашы танкі ўвайшлі ў Чэхаславакію, асабісты самалёт камандуючага Цэнтральнай групай войск генерал-палкоўніка Івана Іванавіча Ценішчава няспынна курсіраваў паміж Прагай і Масквой — цэнтнерамі вывозіў «трафеі». Працуючы ў ГалоўПУРы, я чытаў сотні пісьмаў салдат і афіцэраў, у якіх расказвалася аб «дзейнасці» Ценішчава. У 1976 годзе ўсе гэтыя пісьмы знішчылі. Калі служыў намеснікам начальніка палітаддзела танкавай дывізіі ў Польшчы, даводзілася «арганізоўваць» паднашэнні намесніку начальніка палітупраўлення Паўночнай Групы войск генерал-маёру Роднікаву: грыбы, чарніцы, іншы раз больш істотнае. Гэта сістэма татальнага хабарніцтва існуе і да гэтага часу, тут практычна нічога не змянілася.

Бываюць і больш развітыя спосабы падзарабіць. Можна, напрыклад, уладкаваць свайго сына ў Міністэрства сярэдняга машынабудавання на палкоўніцкую пасаду — так званым «каміваяжорам». Гэтыя паўпрэды ВПК з дыпламатычнымі пашпартамі ў кішэні ездзяць па ўсім свеце, гандлююць савецкай зброяй. Прычым ім прадастаўляецца права прадаваць той жа аўтамат Калашнікава за тую цану, якую яны самі назначаць. «Чырвоным брыгадам» — па аднаму цэнту за штуку, а якому-небудзь дыктатару, які яшчэ толькі падумвае будаваць сацыялізм ці пачакаць, — долараў за пяць. Поўная свабода для любых махінацый. І гэтыя «каміваяжоры» — усе «свае» людзі, усе генеральскія сынкі. А перавозка каньяку і фруктаў ваенна-транспартнымі самалётамі з паўднёвых рэспублік за Палярны круг? А фарцоўка?

**— Прама партрэт амерыканскай «коза ностра» атрымліваецца: мафія нейкая...**

— Гэта, увогуле, і ёсць мафія, прычым арганізавана яна па тых жа законах, што і чыкагскае дзяленне на кланы, — пастаянная барацьба паміж групоўкамі за пасады, званні, цёплыя месцейкі для сваіх вылучэнцаў. Вайна ідзе не жартоўная — яны гатовы адзін аднаго без солі з'есці. Унутры клана ўсё змацавана зямляцкімі, сваяцкімі сувязямі, усё трымаецца на кругавой паруцы. Хоць, канешне, ёсць рознагалоссі, і вельмі сур'ёзныя, унутры кожнай асобнай «сям'і» — гэтак жа, як і ў крымінальным свеце.

**— Можа, вы пагадзіцеся яшчэ і назваць гэтыя варожыя групоўкі?**

— Класіфікаваць наш генералітэт па кланавай прыналежнасці даволі цяжка. Але ў цэлым карціна бачыцца мне прыкладна так. Першы клан — «далёкаўсходнікі» — гэта тыя, хто цяпер фактычна кіруе арміяй. Усе яны звязаны службай на Далёкім Усходзе, даўняй дружбай (калі наогул можа быць дружба ў гэтым асяроддзі): маршал Язаў, генерал арміі Варэннікаў, генерал арміі Кочатаў, генерал арміі Лушаў, генерал арміі Маісееў. Другі клан — кіраўніцтва ракетнымі войскамі стратэгічнага прызначэння на чале з генералам арміі Трацяком. Трэці — флоцкае камандаванне пад кіраўніцтвам адмірала Чарнавіна. Нарэшце, апошняя групоўка складаецца з вышэйшых чыноў Галоўнага ваенна-палітычнага ўпраўлення. Гэты клан непрыкметны, але небяспечны надзвычай, таму што апякаецца непасрэдна Цэнтральным Камітэтам КПСС. Яны асабліва выкрутлівыя, умеюць наносіць жорсткія ўдары, у іх у руках уся кадравая сістэма. На падыходзе — новая плеяда: генерал-палкоўнікі Ачалаў, Громаў, Макашоў...

Як і ва ўсякай «коза ностра», групоўкі дзеляць сферы ўплыву, спецыялізуюцца на пэўным бізнесе. У маракоў гэта перш за ўсё марская кантрабанда з цёплых краін: вязуць усё, што карыстаецца хоць нейкім попытам у Саюзе, — ад жаночых калготак да відэатэхнікі. «Далёкаўсходнікі» цяпер, падобна, сканцэнтраваліся на перагонцы аўтамабіляў з Еўропы, на наркотыках з Афганістана. А Дзмітрый Цімафеевіч, напрыклад, узяўся сам распараджацца тымі грашамі, што плаціць нам Коль за вывад нашых войск з Германіі. Відаць, Язаў вельмі добры эканаміст. «Палітработнікі»—тыя наогул гандлююць усім, што пад руку трапіцца: пасадамі, ведамі, партбілетамі, зняццем партыйнага пакарання.

**— Ці магчымы ўзброены канфлікт паміж названымі вамі кланамі? Тут у генералаў магчымасці намнога шырэйшыя, чым у чыкагскіх мафіёзі...**

— Не думаю, не пойдуць яны на гэта. Па-першае, ім усім даволі добра жывецца, па-другое, нельга выносіць смецце з хаты — усё можа разваліцца, па-трэцяе, яны проста не змогуць весці баявыя дзеянні фізічна. Апошні выпадак высвятлення адносін паміж кланамі сродкам зброі — арышт Берыі ў 1953 годзе. Генералітэт узяў тады рэванш у МДБ за 1937 год. Цяпер час іншы. Генералаў, якія не развучыліся яшчэ трымаць у руцэ пісталет, — адзінкі. Ваяваць яны не ўмеюць, умеюць толькі камандаваць. Мой першы намеснік па «Шчыту» палкоўнік Кудзінаў абяцае з'есці сваю папаху, калі генерал-палкоўнік Ачалаў здолее хоць раз падцягнуцца на перакладзіне... Думаю, папаха ў бяспецы. А Ачалаў жа камандаваў паветрана-дэсантнымі войскамі!..

Недзеяздольнае камандаванне зрабіла і армію такой жа бездапаможнай. Нашы ўзброеныя сілы поўнасцю дэмаралізаваны: салдаты ўцякаюць, афіцэры страляюцца, падводныя лодкі тонуць невядома з-за чаго, ракеты не могуць трапіць у цэль. Штогод мы страчваем у авіяцыйных катастрофах цэлую дывізію — ад таго, што самалёты вырабляюць на заводах, як сасіскі, — з такой жа хуткасцю і такой жа якасці.

Перабудову тут пачаць нескладана: дастаткова прымусіць усіх нашых генералаў на чале з маршалам Язавым прабегчы трохкіламетровую дыстанцыю. Звольніць усіх, хто за суткі не дабярэцца да фінішу. Надзвычай танна і надзейна — зменіцца адразу дзве трэці камандавання...

**— А калі сур'ёзна?**

— А калі сур'ёзна, першым крокам магла б стаць ліквідацыя ваеннай пракуратуры. Гэта ж нонсенс: суддзя-капітан становіцца ў фрунт і казырае падсуднаму-палкоўніку. Ведамасная пракуратура не толькі не змагаецца, але і прыкрывае ўсе пачварнасці нашых бацькоў-камандзіраў. Пакуль пракурор знаходзіцца ў падпарадкаванні ў таго, чыю дзейнасць якраз і павінен расследаваць, — любыя рэформы ў арміі асуджаны на правал.

Падаткаплацельшчык корміць, поіць, апранае генералітэт. Мы маем права патрабаваць, каб за нашы грошы арміяй камандавалі хоць бы сумленныя людзі.

# Футбол? Не, цырк на дроце...

Ну, вось і збылося тое, аб чым здагадваліся, але ніяк не хацелі верыць многія прыхільнікі мінскага «Дынама»: іх каманда, нарэшце, спаўна аддала даўгі ўсім, каму была павінна... Летась «Памір» з Душанбе і кіеўскія аднаклубнікі выратавалі мінчан ад «вылету» з вышэйшай лігі, аддаўшы па сутнасці без барацьбы па два ачкі ў апошніх турах, а сёлета мы ім вярнулі ўсё «з наварам»: ажно па тры ачкі. Больш, здаецца, нашы майстры ні ў кога «не бралі»?!

...Сумна і крыўдна было глядзець на ход гульні ў матчы дынамаўцаў Кіева і Мінска ў мінулую суботу. Гаспадары поля, гарантаваўшыя сабе выступленне ў наступным годзе у адным з еўрапейскіх кубкавых турніраў, на гэту сустрэчу не змаглі выставіць свой лепшы на сённяшні дзень састаў: па розных прычынах адсутнічалі Куцепаў, Дзяркач, Цвейба, Беца, Аненкаў... Роўна палавіна асноўнага саставу! А вось іх сапернікі выйшлі ў самым што ні ёсць баявым саставе. І, тым не менш, пакінулі стотысячны стадыён сталіцы Украіны бітымі...

Аднак спачатку нічога, здавалася, і не выклікала трывог і сумненняў у зыходзе матча. Нібыта і шукалі хады да варот саперніка Антановіч і Герасімец, Мархель і Вялічка. Больш таго, апошняму ў самым пачатку другога тайма ўдалося выйсці на прастор, авалодаць мячом і адкрыць лік. Толькі нядоўга радаваліся каля экранаў сваіх тэлевізараў аматары спорту з Беларусі: літаральна праз дзве мінуты лепшы форвард кіяўлян Саленка нанёс удар па варотах, галкіпер мінчан Курбыка адбіў мяч прама перад сабой, і паўторным ударам нападаючы адновіў раўнавагу. І тут мінчане, хутчэй за ўсё, і ўспомнілі, што дзейнічаюць на полі... не па сцэнарыю. Зніклі і да таго невялікая актыўнасць, імкненне павесці камбінацыйныя дзеянні, настойлівасць. Маладыя ж дынамаўцы Кіева, наадварот, смела і рашуча пайшлі наперад. І зрабілі тое, што трэба было: забілі яшчэ два галы ў вароты мінчан. Спачатку Кавалец паслаў мяч міма Курбыкі з пазіцыі, якая называецца нулявым вуглом, гэта значыць, з самай лініі варот, а потым той жа Саленка ўжо з другога фланга пад тым самым «нулём» падвёў рысу — 3:1.

...Пасля матча супрацоўнік спартыўнага штотыднёвіка «Прэсс-бол» тэлефанаваў спартыўным журналістам Мінска з просьбай выставіць нашым дынамаўцам адзнакі за праведзены матч. Як стала нам вядома, спартыўныя аглядальнікі ацэньваць гэты «цырк на дроце» проста адмовіліся. Дарэчы, такая сітуацыя ўжо была — пасля сустрэчы мінчан на сваім полі з памянёным вышэй «Памірам».

А тым часам барацьба ў чэмпіянаце краіны разгараецца з небывалым напалам і драматызмам. Адны калектывы вядуць спрэчку за месцы ў першай пяцёрцы, другія — за права застацца ў вышэйшай лізе. Вось яшчэ вынікі 27-га тура: ЦСКА —«Лакаматыў» 3:1, «Металург» — «Днепр»— 3:2, «Арарат» — «Металіст» — 2:1, «Дынама» (Масква)— «Чарнаморац» — 1:1, «Памір» —«Спартак» (Масква) — 2:2, «Пахтакор»—«Шахцёр»— 4:1. Турнірная табліца мае цяпер наступны выгляд:

| | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|
| Спартак М | 16 | 7 | 4 | 54-26 | 39 |
| ЦСКА | 15 | 9 | 3 | 51-28 | 39 |
| Дынама К. | 12 | 9 | 6 | 41-31 | 33 |
| Тарпеда | 11 | 9 | 6 | 33-18 | 31 |
| Дынама Мн. | 9 | 10 | 8 | 28-27 | 28 |
| Чарнаморац | 6 | 16 | 4 | 30-24 | 28 |
| Дынама М. | 10 | 7 | 10 | 34-37 | 27 |
| Арарат | 11 | 4 | 11 | 29-31 | 26 |
| Днепр | 8 | 10 | 8 | 25-25 | 26 |
| Шахцёр | 6 | 13 | 8 | 30-36 | 25 |
| Памір | 6 | 12 | 9 | 26-30 | 24 |
| Металург | 8 | 7 | 12 | 22-39 | 23 |
| Пахтакор | 7 | 7 | 13 | 33-42 | 21 |
| Металіст | 6 | 9 | 12 | 26-39 | 21 |
| Спартак У. | 5 | 8 | 13 | 28-40 | 18 |
| Лакаматыў | 5 | 7 | 14 | 17-40 | 17 |

Большасці каманд вышэйшай лігі засталося згуляць усяго па тры матчы. Сапернікамі мінчан у іх будуць лідэры сезона — армейцы Масквы (гульня на полі масквічоў), а таксама футбалісты «Арарата» і «Спартака» з Уладзікаўказа: гэтыя паядынкі адбудуцца ў Мінску. Улічваючы напружанасць барацьбы, рызыкнём выказаць свой прагноз: трапіць у запаветную пяцёрку, каб у наступным годзе гуляць у розыгрышы Кубка УЕФА, мінскім дынамаўцам не ўдасца...

Калі б самі футбалісты лічылі інакш, дзейнічалі б яны на полі па-сапраўднаму шчыра і самаааддана.

**А. ПАМОРСКІ.**

## НАДВОР'Е

**1 кастрычніка**

**Усход, захад, даўжыня дня: Мінск — 6.10, 17.48, 11.38; Віцебск— 6.01, 17.38, 11.37; Магілёў — 5.59, 17.38, 11.39; Гомель —5.58, 17.33, 11.35; Гродна — 6.27, 18.01, 11.34; Брэст— 6.25, 18.05, 11.40.**

Сёння ўдзень па большай частцы тэрыторыі рэспублікі кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Гродна, Віцебску — 16—18, Брэсце, Мінску, Магілёве — 17—19, Гомелі — 19—21 градусы цяпла.

У бліжэйшыя двое сутак па рэспубліцы няўстойлівае, з дажджамі надвор'е. Тэмпература паветра 2 кастрычніка ўначы 5—10, удзень — 12—17, 3-га ўначы 3—8, удзень — 9—14 градусаў цяпла.

**Л. САНКЕВІЧ,**
**інжынер-сіноптык.**

